# КАГО РАЗВАРУШЫЎ КОНКУРС.

## Выпярэдніцтвы вясковых ячэек у падрыхтоўцы.

**Юнвяскоры! Ваш абавязак сваечасова дасылаць матар'ялы на конкурс аб правядзеньні Кастрычніка.**

### Каму незразумела?

**Не пазьнецеся з матар'ялам на конкурс!**

У рэдакцыю паступіла некалькі запытаньняў з прычыны няпоўнага зразуменьня аднаго з пунктаў умовы аб конкурсе вясковых ячэек ЛКСМБ на лепшае правядзеньне 10-ай гадавіны Кастрычніка, абвешчанага цэнтральнай камісіяй па правядзеньні 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі сумесна з рэдакцыяй газэты „Чырвоная Зьмена“.

У гэтым пункце гаворыцца:

„Для ўдзелу ў конкурсе ячэйкі павінны асьвятляць сваю падрыхтоўчую працу на старонках газэты „Чырвоная Зьмена“, у спэцыяльна створаным для гэтай мэты аддзеле. Апісаньне афармленьня ўдзелу моладзі ў Кастрычнікавых сьвяткаваньнях павінна будзе папярэдне пацьвярджацца райкомамі ЛКСМБ, якія для гэтай мэты вылучаюць камісіі. У задачу камісій пры райкомах ЛКСМБ уваходзіць вылучэньне аднэй ячэйкі з усяго раёну для ўдзелу ва Ўсебеларускім конкурсе“.

Рэдакцыя растлумачвае, што камісіі, вылучаныя райкомамі комсамолу, павінны заахвоціць усе ячэйкі да прыняцьця ўдзелу ў конкурсе. Прычым, сочачы за падрыхтоўкай ячэек да конкурсу, а потым шляхам падрабязнага азнаямленьня з правядзеньнем сьвята, раённыя камісіі вызначаюць ячэйку, якая найлепш удзельнічала ў сьвяткаваньні гадавіны, пацьвярджаюць правільнасьць матар'ялаў аб вылучанай ячэйцы і зараз-жа накіроўваюць яго ў рэдакцыю газэты „Чырвоная Зьмена“.

Рэдакцыя зьвяртаецца з заклікам да ўсіх райкомаў, ячэек, юнвяскораў аб сваечасовай, без'адкладнай дасылцы матар'ялаў на конкурс.




Як упрыгожыць клюб да 10-цігодзьдзя Кастрычніка.

### Выплацім 100 процантаў падатку.

**Вёска Грывец перайшла на шматпольле і збудавала школу.**

**(Паленкаўская ячэйка КСМ, Горацкага раёну).**

Паленкаўская ячэйка шырока разгарнула падрыхтоўчую працу сярод сялянваколічных вёсак да сьвяткаваньня кастрычнікавых дзён. Посьпех усёй працы залежыць ад таго, што ячэйка здолела уцягнуць у падрыхтоўку усё насельніцтва.

У аснову падрыхтоўкі ячэйка кладзе **правядзеньне растлумачальнай кампаніі аб значэньні 10-ай гадавіны Кастрычніка.**

Былі праведзены ва ўсіх вялікіх насялёных пунктах агульныя сходы сялян, на якіх стаяла пытаньне аб **10-ай гадавіне і нашых дасягненьнях за гэты тэрмін.** Сходы прайшлі вельмі, жыва. Гэта пацьвярджае тая актыўнасьць, з якой сяляне аднесьліся да тых мерапрыемстваў, якія прапаноўвала комсамольская ячэйка.

Сяляне вёскі **Грывец**, на агульным сходзе, па ініцыятыве комсамольскай ячэйкі, **парашылі перайсьці на шматпольле і організаваць мэліорацыйнае таварыства.** Вёска **Дуброўск уносіць да 10-ай гадавіны 100 проц. падатку.** Вось што кажуць сяляне гэтай вёскі: **„Наша вёска была перадавой і на гэты раз мы нп хочам быць апошнімі“.**

Сяляне тае-ж самае вёскі Дуброўск на агульным сходзе пастанавілі—**адчыніць у сваёй вёсцы школу за свой кошт.** Вёска **Грывец,** па стараньню комсамольцаў, сабрала грошы на пакупку пажарных машын і прыладаў.—«Усё трэба прывесьці ў парадак»—кажуць гаспадары.

Надыходзячая 10-ая гадавіна рэвалюцыі, заахвочвае сялянства ў правядзеньне таго ці іншага добрага гаспадарчага пачынаньня, а комсамольская ячэйка зьяўляецца ўсюды зачыншчыкам, ініцыятарам. Паленкаўская ячэйка гэтак сама ухваліла даць падарунак 10-ай гадавіне, у выглядзе **100 проц. коопэраваньня комсамольскіх гаспадарак.** Па першых дасягненьнях у гэтым напрамку можна быць упэўненымі, што і гэта задача будзе разьвязана.

Самае сьвята будзе адзначана урачыстым пасяджэньнем, на якое будуць запрошаны ўсе сяляне; дэмонстрацыяй, таварыскімі вячоркамі.

**У. П. Лемеш.**

### Восем тыдняў падрыхтоўкі.

**(Карма, Магілеўская акр.).**

Прымаючы пад увагу вялізарную каштоўнасьць 10-ай гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі, бюро Кармянскай комсамольскай ячэйкі пачало рыхтавацца да гэтага сьвята сусьветнага пролетарыяту яшчэ з верасьня месяца.

З пяці комсамольцаў была складзена камісія, якая, кіруючыся паказаньнямі райкамолу, выпрацавала практычны плян правядзеньня юбілею рэволюцыі.

Зараз ячэйка падрыхтавана да правядзеньня вечару **«Карма за 10 год».** Сабраны ўсе гаспадарчыя і культурныя дасягненьні, малююцца дыяграмы, лёзунгі.

На апошнім тыдні перад Кастрычнікам, гэта значыць у першых лічбах лістапада, адбудуцца ў мястэчку сходы рабоча-саматужнай моладзі, на якіх будзе абгаварвацца пытаньне: **«Удзел моладзі ў будаўніцтве соцыялізму».** Пасьля гэтага—**вечары самадзейнасьці.** Запрошаны да ўдзелу ў гэтых вечарох **удзельнікі грамадзянскай вайны;** падрыхтаваны **вусная і насьценная газэты.**

**Комсамольцы упрыгожваюць свае хаты і двары.**

Сёмага лістапада, пасьля дэмонстрацыі, комсамольцы сумесна з ўсёй працоўнай моладзьдзю мястэчка **наладжваюць таварыскі сьвяточны полудзень.**

**Е. Гінзбург.**



Галерэя, здадзеная ў архіў.

# ПЕРАВЫБАРЫ БЮРО ЯЧЭЕК.

**Выводзім недахопы на чыстую ваду.**

### Гаспадарчыя пытаньні--грунт работы.

**(Мілаславічы, Клімавіцкі раён, Магілеўскай акругі).**

Да цяперашніх перавыбараў ячэйка прышла са значнымі дасягненьнямі. Сходы ячэек за справаздачны пэрыод запаўняліся, галоўным чынам, пытаньнямі **гаспадарчага будаўніцтва і ўдзелу моладзі ў працы сельсавету.** Вядома, зварочвалася ўвага і на іншыя галіны, але пералічаныя вышэй зьяўляліся грунтам, касьцяком усяе ячэйковае работы.

У часе мінулых перавыбараў у сельсавет было абрана пяць комсамольцаў. **Старшыня і сакратар сельсавету, старшыня КСУ—комсамольцы.** Бюро ячэйкі ў летні час некалькі раз заслухаўвала іх справаздачы і давала паказаньні ў рабоце. За апошнія чатыры тыдні ўцягнута ў ячэйку ТСА-Авіяхіму 25 комсамольцаў.

**86 проц. ячэйкі коопэравана.** Таксама ячэйкай ўцягнута ў коопэрацыю **45 проц. бацькоў комсамольцаў.** Ёсьць некалькі прыкладных комсамольскіх гаспадарак.

Політвыхаваўчая праца праводзілася ў гуртку бягучага моманту. Таксама ў летні час наладжваліся вечары сялянскай моладзі. Іх было праведзена 10.

Актыў ячэйкі налічвае ў сваім складзе пяць партыйцаў. Пры ячэйцы ёсьць тры піонэратрады і адна група акцябрат.

У спрэчках выказалася 14 комсамольцаў. Адзначалі наступныя недахопы: **перабоі ў плянавасьці працы, нерэгулярнае выданьне насьценнае газэты, дрэнны вучот батракоў і інш.**

У новае бюро абралі 5 сяброў і 3 кандыдаты. Па соцыяльным складзе яны падзяляюцца: беднякоў—3, рабочых—2, серадняков і саматужнікаў—3.

**А. Супэрфін.**

### Кожны недахоп--на чыстую ваду.

**(Мястэчка Ляды, Аршанская акруга).**

На перавыбарчым сходзе нашай местачковай ячэйкі прысутнічалі амаль усе комсамольцы. Па справаздачы бюро ячэйкі было задана ня менш 40 запытаньняў і 12 чалавек (з 35 прысутных) выступілі ў спрэчках.

Як недахоп у працы бюро, адзначана: **слабае высоўваньне новага актыву, не кантралявалася праца таварышоў, вылучаных на гаспадарчую і грамадзкую працу і інш.**

У бюро прайшлі на 85 процантаў новыя рабочыя хлапцы.

На гэтым-жа сходзе была праведзена падпіска на заём індустрыялізацыі. Большая частка комсамольцаў падпісалася на 50 проц. сваёй месячнай пэнсіі.

**Б.**

### Чаму „прыелася“ політадукацыя?

**(Барысаўскі раён, Менская акруга).**

Па нашаму раёну перавыбары бюро ячэек распачаліся 6-га кастрычніка; да гэтага часу прайшлі ўжо ў большасьці ячэек.

На перавыбарных сходах комсамольцы актыўна прымаюць удзел у спрэчках, адзначаюць ячэйковыя **вывіхі, выносяць прапановы для далейшай практычнай працы.**

Галоўную ўвагу зьвяртаюць комсамольцы па **політадукацыю, на тое, што падручнікі па палітграмаце „прыеліся“: кожны год прыходзіцца займацца па адных і тых-жа кніжках.** Таксама скардзяцца і на тое, **што няма па чым прапрацоўваць пастановы апошніх пленумаў партыі і комсамолу.**

У склады новых бюро ўцягваецца значная колькасьць **дзяўчат**, праз якіх можна будзе палепшыць працу сярод усіх вясковых дзяўчат. Так, напрыклад, у бюро М.-Стахаўскай ячэйкі **выбрана 3 дзяўчыны,** сакратар ячэйкі таксама дзяўчына.

**П. Булайчык.**



### Мы гатовы абараняць краіну.

**(Старобінскі раён, Бабруйская акруга).**

Перавыбарчая кампанія ў нас распачалася ў першых ліках кастрычніка. Справаздачы бюро паказалі, што наша комсамольская організацыя пераджыла той крызіс росту, які ў нас наглядаўся год таму назад. Нашы ячэйкі хоць і не на многа вырасьлі, але цяга з боку моладзі да комсамолу значна павысілася. Гэта сьцьвярджае вялікі лік заяў, пададзеных для паступленьня ў КСМ.

Палепшала якасьць культурна-масавай працы. Ячэйкі наладжваюць **культурныя, добрападрыхтаваныя вечары сялянскай моладзі.** Сярод беспартыйнай моладзі наглядаецца вялікая зацікаўленасьць працаю драмгурткоў, жаданьне ўдзельнічаць у наладжваньні вечароў, харавых і музычных выступленьняў і г. д. У гэтай галіне **Старобінская** сельсавецкая ячэйка ўзяла правільны напрамак.

Перавыбары бюро ячэек яшчэ раз паказалі нашу згуртаванасьць, гатоўнасьць у любы момант стаць на абарону краіны.

**Юр. Бялько.**

*Міжнародны агляд.*

# ДЗЕНЬ ЗА ДНЕМ.

**Новы ўдар па ангельскай політыцы.—Гандлёвы ўгавор між Латвіяй і СССР карысны для абедзьвюх краін.—Францускія рэакцыянэры пацярпелі паражэньне.—Чэха-Славакія на шляху прызнаньня СССР.**

### Гандлёвы ўгавор з Латвіяй.

Гэтымі днямі латвійскі парлямант зацьвердзіў гандлёвы дагавор між Латвіяй і Савецкім Саюзам.

Латвія—невялічкая прыбалтыцкая дзяржава. Яна мае ўсяго 2 мільёны насельніцтва.

Прыродных багацьцяў Латвія мае надзвычайна мала.

Прамысловасьць яе таксама маленькая. Буйныя старыя заводы, якія знаходзяцца ў Рызе—сталіцы Латвіі,—зруйнаваны вайною і яшчэ да гэтага часу стаяць.

Разьвіцьцё экономічных сувязяй з СССР мае для гаспадаркі Латвіі вялізарнае аначэньне.

Толькі замацаваўшы свой гандаль з намі, маленькая Латвія будзе мець магчымасьць палепшыць сваё гаспадарчае становішча.

Пагэтаму гандлёвы ўгавор карысны для нас, яшчэ больш выгадны для Латвіі.

Гэтым і тлумачыцца тое, што ня гледзячы на перашкоды з боку Англіі, якая імкнулася сарваць угавор, ён ўсё-ж такі зацьверджан парлямантам.

### Якія выгады абедзьвюм краінам ад угавору.

Мы адмежаваны ад Балтыцкага мора Латвіяй і Эстоніяй.

СССР мае выхад у Балтыцкае мора толькі праз адзін порт—Ленінград.

Латвія-ж уладае большай колькасьцю партоў, праз якія нам лепш і выгадна правозіць тавары за межы.

Правоз нашых тавараў праз Латвію мае для самае Латвіі буйнае значэньне.

Яна атрымлівае ад правозу тавараў грошы. Чыгуначны правоз аплачваецца. За карыстаньне складамі і партамі аплачваецца, а ўсё гэта разам павялічвае прыбытак.

Пры перавозе нашых тавараў праз Латвію, мы таксама атрымліваем ільготы.

Але справа ня толькі ў экономічным значэньні ўгавору.

Гандлёвы ўгавор СССР з Латвіяй мае так сама і буйнае політычнае значэньне.

Усякае замацаваньне нашых экономічных сувязяй з якой-небудзь дзяржавай — ёсьць удар па натхніцелях вайны супроць СССР.

Паляпшэньне нашых узаемаадносін з Латвіяй — асабліва няпрыемны удар па Англіі.

Не дарма ангельскі прадстаўнік у прыбалтыцкія краіны запрашаў да сябе журналістых і адкрыта заяўляў ім, што Англія пярэчыць супроць савецка-латвійскага гандлёвага ўгавору. Ангельская дыплёматыя самым нахабным чынам імкнецца дыктаваць сваю політыку прыбалтыцкім краінам.

Якраз праз Латвію, Эстонію, Фінляндыю і Польшчу яна зьбіраецца, пры першай мажлівасьці, пачаць адчынены напад на СССР.

Асабліва пасьля разрыву з намі, Англія імкнецца пагоршыць адносіны СССР з сумежнымі дзяржавамі.

Аднак савецка-латвійскі ўгавор зацьверджан. Не дапамаглі і ўсе пагрозы з боку ангельскай буржуазіі.

Уласныя інтарэсы Латвіі перамаглі тое, што дыктавала ёй чорнасоценная ангельская буржуазія і яе найміты.

### Паражэньне францускіх рэакцыянэраў.

Шэсьць дзён увага Парыжу была прыкута да процэсу над забойцам Пятлюры.

Мы ўжо паведамлялі, што францускія рэакцыянэры дамагаюцца суровага прыгавору Шварцбарду.

Яны імкнуліся выкарыстаць прыгавор для новай супроцьсавецкай кампаніі.

Аднак, усе спробы прокуратуры даказаць на судзе, што Шварцбард зьяўляецца „агэнтам бальшавікоў“, пацярпелі крах.

Адзін з сьведак—заўзяты вораг большавікоў—паказаў суду ліст аднаго контр-рэволюцыянэра, у якім ён ручаецца, што Шварцбард ніякіх адносін да бальшавізму ня мае.

Сьведкі, якія выступалі на працэсе, усе гавораць аб адным, што Пятлюра быў павінен у пагромах на Украіне.

Увесь шлях пятлюраўскае „арміі“ саправоджаўся забойствамі, падпаламі і крывавымі зьдзекамі над яўрэйскай беднатою.

Аб чым гаворыць **апраўданьне** Шварцбарда? Яно кажа аб тым, што нават у францускага суда хапіла досыць здаровага розуму і сумленьня, каб асудзіць пятлюраўшчыну.

Разам з пятлюраўшчынай пацярпела паражэньне і французская рэакцыя.

З рук рэакцыянэраў выбіта адно са зьвеньняў доўгага ланцуга інтрыг і провокацый супроць СССР.

### Большасьць жыхарства Чэха-Славакіі за прызнаньне СССР.

Чэха-славацкі міністр замежных спраў—Бэнэш выступаў ў камісіі пры парляманце.

Закрануўшы адносіны з СССР, міністар заявіў, што ўзаемаадносіны між абедзьвюмя краінамі разгортваюцца спрыюча.

„Ніякіх перашкод і рознагалосьняў няма.

Экономічныя адносіны паляпшаюцца і ўмацоўваюцца“.

Усе выступаўшыя ў спрэчках зазначалі, што няма ніякіх прычын, якія-б перашкаджалі прызнаньню Чэха-Славакіяй СССР.

Комуністычны дэпутат Бур'ян заяўляе, што, як выявілі апошнія выбары ў самакіраўніцтвы, большасьць жыхарства вырашыла пытаньне аб прызнаньні СССР ў станоўчым сэнсе.

І калі ўрад выказваецца супроць прызнаньня, дык ён знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з воляю большасьці насельніцтва.

**Алёнін.**

